Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem.



# Беларуская Борць

Месячнік
пчалярства
і мядова-лекарскіх зёлак

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі Вільня, вул. Каралеўская, 3-8. Рэдакцыя адчынена ў аўторкі і пятніцы ад 10-14 гадз.

Падпісная плата да канца году 2 зл. Заграніцу - ўдвая даражэй. Цана асобнага нумару - 50 гр. Цана абвестак паводле ўмовы.

№ 4. Вільня, Лістапад 1934 г. Год I.

## ПАДТРЫМЛІВАЙЦЕ СУВЯЗЬ З "БЕЛАРУСКАЙ БОРЦЮ".

Выпускаючы першы нумар нашае часопісі, мы зьвярнуліся да ўсіх паважаных Пчаляроў-Беларусаў з заклікам да супрацоўніцтва з намі.

Мы ўважаем, што адна рэдакцыя, зложаная нават з найлепшых спэцыялістаў сваей справы ня здолее выканаць таго заданьня, якое стаіць перад часопісяй, асабліва фаховай.

Такая часопісь толькі тады будзе адказываць свайму назначэньню, калі паміж ёю і яе чытачамі завяжыцца цесная сувязь, сталы кантакт.

Часопісь будзе тады ня толькі той крыніцай, праз якую будуць ісьці ў масы тыя ці іншыя весткі і парады, якія будзе ўважаць за патрэбныя рэдакцыя; яна станецца тады тым, чым фактычна і павінна быць кожная часопісь, - яна будзе мейсцам спатканьняў яе чытачоў.

На бачынах гэтакае часопісі яны будуць дзяліцца адзін з адным сваімі дасягненьнямі, вынікамі сваей працы і сваіх досьледаў, будуць даваць адзін аднаму парады і г.д. Рэдакцыя - будзе тады толькі тым фільтрам, праз які будзе прахадзіць голас практыка.

Чым часьцей чытач будзе зварачывацца ў рэдакцыю, чым часьцей будзе пісаць да яе, тым цікавей будзе часопісь. Рэдакцыя, прыслухоўваючыся да гэтых галосоў, да крытыкі, будзе магчы пакіраваць часопісь у тым кірунку, у якім яна пажадына тым, для каго прызначана.

Часопісь не адбіваючая на сваіх бачынах жыцьцёвых патрэб сваіх чытачоў будзе для іх нуднай, ня цікавай, і ў канцы канцоў зачахне і памрэ ня выканаўшы свайго заданьня.

Добра разумеюць гэта пчаляры іншых народаў, і ў часопісях іхніх заўсёды знойдзем больш матэрыялаў ідучых з мейсцад пчаляроў, чым матэрыялаў рэдакцыйнага паходжаньня.

Няма гэтага пакульшто ў нас. Нашая маладая часопісь ня надта багата карэспандэнцыямі з мейсц. Часта бывае нават неяк дзіўна. Пчаляры, і пчаляры фаховыя, якія займаюцца і гадоўляй матак і рознымі іншымі досьледамі пішуць часам да нас, што ня ведаюць аб чым пісаць. - Ці ж мала ёсьць тэм, на якія можна пісаць у сваю часопісь! Ну вось хоць аб розных спробах перахову пчол зімою, аб гадоўлі матак, аб розных досьлядах, аб стане свайго пчальніка і пчалярства сваей ваколіцы наагул, аб медазборы, аб гадоўлі медадайных расьцін і шмат шмат аб чым. Агулам пісаць трэба аб усім пчалярскім жыцьці, нават аб рознай драбязе. Усё павінна адбівацца па бачынах часопісі. Усё будзе цікавіць кожнага пчаляра, асабліва пачаткуючага.

Дзеля гэтага яшчэ раз зварачываемся да ўсіх нашых чытачоў і наагул да ўсіх пчаляроў з заклікам: падтрымлівайце сувязь з "Беларускай Борцю".

Другая справа, у якой лічым сваечасным зьвярнуцца да нашых пчаляроў - гэта справа падпіскі.

З вялікім задаволеньнем можам сьцьвердзіць, што нашая ініцыятыва ня згінула дарма. Адчутая намі патрэба выданьня сваей пчалярскай часопісі ня была абмыльнай. Водгук беларускіх і украінскіх пчаляроў сьведчыць аб палючай патрэбе гэтае часопісі.

Распачынаючы выданьне "Бел. Борці" бяз ніякіх грашовых сродкаў, мы змушаны былі выдаваць яе саматугам, аддаючы ёй замест грошаў сваю працу.

Цяпер сьмела можам сказаць,што быт "Бел.Борці" запэўнены і дзеля гэтага настала хвіліна,калі трэба ўжо падумаць аб пераходзе да выдаваньня яе друкарскім спосабам.

Пераход гэты будзе магчымы толькі тады,калі чытачы нашыя дадуць нам на гэта неабходныя грашовыя сродкі ў форме падпіскі.

Зьвяртаемся дзеля гэтага да ўсіх сучасных падпісчыкаў і ўсіх тых хто цікавіцца пчалярствам з просьбай пашыраць"Бел.Борць" і здабываць ей новых падпісчыкаў. Пры адпаведным збольшаньні ліку падпісчыкаў пераход гэты быў бы магчымы ўжо ад новага году.

Пераход такі даў бы нам магчымасьць пашырыць часопіс,патрэба чаго будзе адчувацца з пачаткам новай кампаніі.

Пашырэньня часопісі вымагае і другі аддзел "Бел.Борці",аддзел лекарскіх зёлак. Справа гэтая павінна быць пастаўлена ў нас фахова і комэрцыйна. Нельга глядзець на зёлкі,як на якуюсьць забаву. Справа гандлю і гадоўлі лекарскіх і прамысловых расьцін становіцца паважным фактарам у гаспадарчым жыцьці народаў і трактуецца дужа паважна нават такім практычным народам,як немцы,якія інтэнсыўна вядуць зараз акцыю прапаганды гадоўлі ў сябе гэтых расьцін,каб затрымаць у краі тыя аграмадныя сумы,якія цэпер выдаюцца на закуп зёлак за граніцай. А мы, маючы ў сябе столькі гэтага дабра,спакойна праходзім міма яго і топчам яго нагамі. Пашырэньне "Бел.Борці" дасьць магчымасьць даць патрэбнае і адпаведнае мейсца і гэтай справе.

Лёс часопісі і дзьвюх галін нашае гаспадаркі ў Вашых руках!

Дык чакаем!

## КАЛІ І ЯК ПЕРАНОСІЦЦА ПЧОЛ У ЗІМОЎКІ.

Ставіцца пчол у зімоўкі раней ці пазьней залежна ад наступленьня халадоў. Наагул сьпяшацца ня трэба. Даволі паставіць тады,як марозы дойдуць да -5°.

Уносіць вульлі ў зімоўкі трэба ў сухую пагоду,каб яны ня былі мокрыя ці са сьнегам.Добра мець вульлі назначаныя нумэрамі і панумэраваць гэтак сама мейсцы на якіх вульлі стаялі,каб вясной на гэтыя самыя мейсцы іх паставіць.

Уносячы затыкаем вылёты лучынкамі або калочкамі так,каб былі шчэлкі і магло праходзіць паветра. Найлепш,калі вульлі маюць сумысныя бляшаныя засаўкі. -Калі маем вульлі Дадан-Блятта,то прымацоўываем дно цьвікамі або шрубамі і адымаем падлётныя дошкі.. Гэтак прыгатаваныя вульлі пераносіцца спакойна на насілках,стараючыся ставіць вылетамі да чалавека,г.зн.так,каб рамкі сталі ўздоўж насілак.

Вульлі ставіцца ў зімоўцы на паліцах адзін побач другога. Унёсшы ўсе вульлі зачыняем зімоўку,а пасьля 2-3-х гадзін,калі пчолы ужо зусім супакояцца,адчыняем вылеты.

Вылеты адчыняем пацёмку і вельмі ціха,каб пчолы гэтага нават не заўважылі.

Дагляд пчол у зімоўцы вельмі просты. Палягае ён на тым, каб утрымліваць адпаведную тэмпэратуру і рэгуляваць яе паводле патрэбы. Калі тэмпэратура будзе нізкая,то трэба закрываць вэнтылятары, а калі за высокая,то адчыняецца на нач дзьверы,або ставіцца ў якой небудзь пасудзіне лёд ці сьнег.

Ад часу да часу трэба паціху ўвайсьці ў зімоўку і паслухаць як аказваюцца пчолы ў кожным паасобным вульлі. У пачатку зімы хопіць спраўджаць стан пчол раз або два разы ў месяц,але чым бліжэй да вясны,тым часьцей прыходзіцца заглядаць у зімоўку,а ў канцы,перад вынасам на двор , трэба параслухаць пчол 2-3 разы ў тыдзень.

Пры зімаваньні ў зімоўках трэба вельмі сьцерагчы пчол ад мышэй,якія могуць зрабіць аграмадную шкоду,выядаючы мёд і воск,асабліва старую вашчыну,у якой знаходзяць пяргу. Апрача таго,яны могуць часта ўлезьці ў вулей грызуць яго,чым непакояць пчол і што можа выклікаць лясу. -Хочучы забяспечыць зімоўку ад мышэй,трэба будаваць яе так,каб мышы не маглі ў ёй лёгка загнязьдзіцца; дзеля гэтага добра зрабіць падлогу цэгляную,або цэмэнтовую,або насыпаць замест падлогі грубы пласт чыстага сухога пяску,у якім мышы ня змогуць рабіць гнёздаў. Калі ўжо на няшчасьце мышы завяліся,то трэба іх загадзя вылавіць ці вытруціць. Як атруту добра ставіць у кутку зімоўкі гіпс зьмяшаны з мукой, а побач гэтага пасудзіну з вадой.

Каб мышы не разьбягаліся па зімоўцы,шукаючы спажывы,радзяць зрабіць у кутку здалёка ад вульлёў прыманку: ставіцца нізкая /8-10 цм./ драўляная скрыначка напоўненая збожжам,пшаніцай,аўсом,ячменем,жытам,а найлепш сумесяй ўсяго гэтага.Каля скрынкі ставіцца пастка гэтак сама збожжам абсыпаная. Гэтакая прыманка прыцягівае мышэй у адно мейсца,дзе яны паступова гінуць у пастцы.

З. В.

# ЯК ПАЗНАЦЬ ПРАЎДЗІВЫ МЁД І ВОСК.

Вельмі шмат консументаў мёду, купляючы яго, зварочвае ўвагу толькі на коляр і пах. Тымчасам па коляры і паху пазнаць яго праўдзівасьць вельмі цяжка. Па першае таму, што мёд значна розьніцца колярам і пахам у залежнасьці ад таго, з якіх кветак зьбіраны, а па другое, што спрытны фальшэр патраціць заўсёды надаць яму адпаведны коляр і пах. Коляр натуральнага мёду бывае жоўты з рознымі адценкамі: пачаўшы ад ясна-жоўтага, амаль што белага /мёд з акацыі/ і канчаючы на цёмна-бранзовым /з грэчкі/. Некатарыя гатункі сьвежага і рэдкога мёду маюць адценак зялёны /з васільноў, другія чырвоны і г.д.

Пах мёду паходзіць з эфіравых алейкаў, якія знаходзяцца ў кветках. І чым больш пахнець кветка, з якой зьбіралі пчолы мёд, тым больш будзе ён араматычны. Каб мёд ня згубіў свайго натуральнага паху, яго ня трэба грэць і трымаць доўгі час у адчыненых пасудзінах.

Добры, натуральны і чысты мёд можна пазнаць толькі па яго сталасьці і хэмічнаму складу.

Сьпелы натуральны мёд у працягу некалькі тыдняў зцукроўваецца і робіцца цьвёрдым і сталым. Хуткасьць яго асяданьня залежыць ад колькасьці вады, паходжаньня кветак, з якіх зьбіраны і ад тэмпэратуры мейсца, у якім стаіць /у халодным хутчэй/. Мёд сцукраваны можа мець крышталікі большыя і тады ён будзе крупкаваты, або вельмі дробныя, і тады крупак ня бачым; гэтакі мёд мае выгляд маславаты.

Мёд найчасьцей падрабляюць даліваючы да яго вады. Гэтакі мёд хутка ня сцукруецца, а калі вады дадана шмат, то можа скіснуць. Другою, вельмі часта ўжыванаю дамешкаю да мёду, зьяўляецца мука і крахмал. Пры такой дамешцы мёд будзе бурэць і ніколі ня сцукруецца. Часта таксама фальшуюць мёд дадаючы: макасы, бурачанага соку, гліцэрыны і т.п. Гэты "мёд" можна пазнаць па тым, што ён ня толькі ня цукруецца, але нават ніколі ня будзе густым. Гэта ёсьць "мёд", які мы вельмі часта спатыкаем у продажы рэдкім нават у зімку.

Найлепшым і найдасканальшым мэтадам пазнаваньня фальшывага мёду ёсьць аналіза, гэта значыць расклад яго на складовыя часткі. Мэтад гэты вельмі каштоўны і цяжкі, бо вымагае багатае лябараторыі, на якую рэдка хто можа здабыцца. /Гэтакая лябараторыя маецца толькі ўва Францыі. Польшча і нават Нямеччына яе ня мае/.

Ёсьць мэтады вельмі простыя і ўсім даступныя, якія пазваляюць выкрыць галоўныя і найчасьцей ужываныя дамешкі да мёду.

Праўдзівы і чысты мёд распушчаецца зусім у вадзе з сьпіртам, не даючы асаду. Калі мы возьмем адну частку мёду і распусьцім у дзьвёх частках гарачае вады і дадамо да гэтага дзесяць частак сьпірту і добра зьмяшаем, то натуральны і чысты мёд ня дасьць зусім асаду. Мёд падраблены -дасьць белы асад. Воск -распусьціцца і выплыве на верх.

Калі ў мёдзе маюцца такія дамешкі як мука, крахмал і іншыя, дык выявіць іх можна гэтак: уліваем у мёд некалькі кропель ёды /раствор ёду ў сьпірце/ і калі ёсьць крахмал, то часткі яго ўвойдуць у сувязь з ёдам і зафарбуюць гэты мёд на блакітны коляр; калі крахмалу, або мукі ёсьць вельмі шмат, тады атрымаем коляр цёмна-бранзовы, аж да чорнага.

Воск гэта ёсьць тлустасьць, якую выдзеляюць з сябе пчолы ў часе добрага пажытку і якая розьніцца ад усіх іншых тлустасьцяў тым, што мейсца гліцэрыны займае ў ёй, г.зв., міpыцыловы алькаголь. Хімічны склад воску наступны: мірысіны 85%, цэрызіны 13-15%, і апрача таго трошкі араматычных алейкаў і арганічнае фарбы.

Воск выталлены з плястраў ёсьць будовы зярністае, коляру меньш-больш жоўтага, уласьцівы цяжар 0,96-0,98 пры 15°С. топіцца пры 64°С.

Воск у вадзе не распушчаецца, у сьпірце распушчаецца вельмі мала, а ў эфіры, тарпатыне і бэнзыне распушчаецца зусім.

Фальшуюць воск мяшаючы яго з смалой, парафінай, крахмалам, серкай, лоем, земляным воскам, стэарынавым квасам, гіпсам і г.д.

Найлепшы і ўсім даступны спосаб адрозьніць натуральны воск ад фальшаванага, есьць наступны: калі мы возьмем кавалачак воску вялічыні лясновага арэха і будзем мяць пальцамі, то воск атрымоўвае тэмпэратуру цела. Калі воск зробіцца мяккі, тады робім з яго валачак, які бяром пасьля за канцы і разрываем. Натуральны воск будзе пры разрываньні прыліпаць да пальцаў, а адарваны ад пальцаў будзе матавы. Канцы разарванага валачка будуць тупыя. Воск фальшаваны пры ўціскваньні пальцамі разаграваецца і выдзяляе тлустасьць і таму да пальцаў ня клеіцца, коляр мае з полыскам, а пры разрываньні, валачка разцягваецца і таму канцы яго будуць ня тупыя, але вострыя.

Калі ходзіць толькі аб тое ці воск ёсьць чысты, то дзеля гэтага бяром прабірку /невялічкая шкляная пасудзіна ужываная дзеля аналізаў/, у якую кладзём кавалачак воску і наліваем эфіру, бэнзіны або тэрпатыны; шчыльна закаркаваўшы грэем прабірку ў цёплай вадзе час ад часу мяшаючы. Натуральны воск распусьціцца зусім не даючы шуму, а фальшаваны -дасьць шум, які будзе асядаць

на сьценках і дне прабіркі. -Калі гэтак сама ў прабірцы будзем грэць воск у вадзе з содай, то чысты воск ня дасьць асаду. Воск, які мае лой, стэарыну, або смалу дасьць шум. -Смалу ў воску можна пазнаць, калі гэтакі воск залі́ем сьпіртам у 85°, сьпірт распусьціць смалу, а воск застанецца нераспушчаны, а калі да гэтага дадамо вады, то смала дасьць раствору малочны коляр. -Воск з парафінай можна пазнаць, калі кавалачак воску ўкінем у гарэлку 34-35°; воск з парафінай выплыве на верх; а воск чысты спадзе на дно. -Серку, крахмал, гіпс і земляны воск можна выкрыць, калі заліць воск гарачай тарпатынай; яна распусьціць толькі натуральны воск, а ўсе іншыя дамешкі застануцца.

Вельмі часта фальшэр, каб замаскаваць сваю дамешку, дадае да воску розных фарбаў. Калі мы гэтакі воск будзем варыць некалькі мінут у 10 частках /бярэм на вагу/ 90° сьпірту, то раствор зафарбуецца на цёмна жоўты коляр, тады як натуральны воск дасьць толькі коляр слаба жоўтаваты.

М. Як.

## Мядовы воцат.

Пчаляру часта прыходзіцца мыць у вадзе свае інструмэнты, пушніцу /цэнтрафугу/, ды пасудзіны ад мёду. Атрыманая пры гэтым салодкая вада выліваецца на двор і прападае бяз ніякай карысьці, у той час, калі можна з яе лёгка зрабіць вельмі добры воцат, часта патрэбны ў гаспадарцы. Хаця, праўда, нашы гаспадыні замяняюць яго хлебным, або бураковым квасам, але бывае, што і воцат патрэбны і замяніць яго трудна.

Каб атрымаць добры мядовы воцат даволі, калі ў вядры вады будзе да 2-х фунтаў мёду. Практычна пераканацца ці даволі ў вадзе мёду можна пры помачы сьвежага курынага яйка: калі яйко ў мядовай вадзе выплывае наверх то мёду там даволі, -а калі тоне, то неабходна мёду яшчэ дадаць.

Калі ўжо маем мядовую ваду, то зьліваем яе ў бочку з двумя днамі і дадаём туды бутэльку добрага праўдзівага воцту; праз некалькі дзён сумесь пачне фэрмэнтаваць.

Калі бочка напоўненая мядовай вадой аж да верху, то падчас фэрмэнтаваньня ўсе нячыстасьці будуць выплываць праз дзірку ў верхнім дне, але тады трэба кожны дзень даліваць бочку цёплай мядовай вадой.

Калі воцат ужо перастане фэрмэнтаваць, бочку трэба шчыльна заткнуць; праз два тыдні воцат зробіцца празрысты і гатовы да ўжытку. Калі яго зьліць у бутэлькі і закаркаваць іх, то воцат паступова будзе штораз мацнейшы і лепшы.

Можна прыгатаваць некалькі гатункаў мядовага воцту. Мы тут падамо толькі два рэцэпты.

1. Гатовы мядовы воцат наліваецца на сухія кветкі белага бэзу /бузіны/ і трымаецца яго праз два тыдні на сонцы. Пасьля гэтага воцат працэджываем і зьліваем у бутэлькі.

Гэты воцат мае вельмі прыемны пах і карысны да абціраньня /напалову з вадой/ цела людзей, маючых сільную гарачку; добра таксама пры болях галавы зьвязываць яе хусьцінкай, змочэнай гэтым воцтам.

2. Воцат малінавы. Сьпелыя маліны разцёрці таўкачом у цёрліцы і зложыць іх разам з сокам у гліняны гаршчок, бяручы на адну частку малінаў 15-20 частак мядовага воцту. Гаршчок з сумесяй трымаюць 2 дні ў халаднаватым мейсцы, а тады фільтруюць /працэджываюць/ і наліваюць у бутэлькі загадзя перамытыя сьпіртам. Добра на кожную бутэльку воцту даць ¼ часьць шклянкі гарэлкі. Закаркаваныя бутэлькі з воцтам перахоўваюцца ў халодным мейсцы. Гэты воцат ужываецца, як асьвяжаючы напітак: адна, дзьве лыжкі на шклянку вады, -цукру да смаку.

Наагул мядовы воцат зьяўляецца адным з найлепшых гатункаў, ён вельмі смачны і здаровы. Хто ня мае патрэбы рабіць яго шмат, можа рабіць яго ня ў бочцы, а ў шкляной бутлі на некалькі літраў. У кожным выпадку выкарыстаць мядовую ваду варта і варта прыдбаць яшчэ адзін прадукт хатняга вырабу, падставай якога зьяўляецца мёд.

Прыгатаўляючы мядовы воцат трэба помніць аб адным, каб не рабіць яго і не перахоўваць у тым памешканьні, дзе прыгатаўляецца або стаіць пітны мёд, або якое віно, бо бактэрыі воцту могуць лёгка папасьці ў пітны мёд і тады пчаляр замест мёду атрымае воцат.

**Зімовыя вечары -найлепшая пара дзеля папаўненьня сваей фаховай і агульнай веды**

Л. Войцікава.

# Медадайныя расьціны.

/працяг/

Явар. укр. Явір, польс. Klon jaworowy, рас. Явор. -/Acer pseudoplatanus/ Расьце дзіка ў сярэдняй і паўднёвай Эўропе, а таксама часта спатыкаецца ў садох і парках. -Лісьцё, як у клёна тоькі з сіня-зялёным цьмянымісподам. Кветкі сьветла-зялёныя, драбнейшыя чым у клёна, сабраныя ў зьвіслыя букеты. Цьвяце зараз пасьля садовіны ў працягу цэлага месяца. Мядуе надзвычайна добра. Вялікіх вымогаў ня мае, расьце добра ў кожнай зямлі. Размнажаецца явар з насеньня, якое на зіму трэба стратыфікаваць.

Клён. укр. Клён звичайний або остролистый, польс. Klon, рас. Клен. /Acer platanoides/.
Прыгожае дрэва, да 25 мэтраў вышыні з роўным стволам, гладкай карою пакрытым. Лісьцё сьветла-зялёнае, паціпальчатае, груба зубкаванае. Кветкі дробныя, жоўта-зялёныя ў даволі вялікіх парасончыках. Овач -окрыдлікі. Цьвіце клён у красавіку і траўні перад садовінай, дзеля чаго мае для пчаляроў вялікае значэньне. У мяйсцовасьцях, дзе клён расьце масай /пад Вільняй у Кальварыі -пчальнік у 100 вульлёў/ пчаляры прыгатаўляюцца да выкарыстоўваньня клёнаў спэкулятыўным падкормліваньнем пчол. Клён размнажаецца як явар. Добра расьце на лёгкіх грунтах.

Каштан. /Aesculus Hippocastanum/.
Гэта вялікае, вельмі прыгожае дрэва да 20-30 мэтраў вышыні з густалістаю каронаю і бурай карпавай кароню. На таўстых галінах вырастаюць грубыя, вялікія пупышкі, пакрытыя лузгою, каторая выдзяляе з сябе клейкую смалу. З гэтых пупышак выходзяць кветкі і лісьцё. Лісьцё цёмна-зялёнае пяці або сямі пальчатае. Кветкі з 4-5 нярoўных пялёсткаў, белыя жоўта і ружова накрапляныя, сядзяць у простых, нягнуткіх ўверх паднятых гронках. Овач -вялікая, зялёная, калючая куля з 2-4 вялікімі зярнятамі. Цьвяце ў траўні і чэрвені пасьля садовіны. Дае пчолам шмат мёду, пяргі і клею. Бацькаўшчына каштана -Малая Азыя. У нас садзіцца дзеля дэкарацыі ў садох, парках, аллеях; абсаджываюць гэтак-сама каштанамі вуліцы ў местах. Размнажаецца з насеньня, якое садзіцца ў восені, або на зіму стратыфікуецца. Зямлі вымагае глiністай, на лёгкай не ўдаецца. -Спатыкаецца ў парках іншая адмена каштана, што цьвяце чырвоным цьветам. Цьвяце зараз пасьля папярэдняй і добра мядуе.

Ліпа. /Tilia/ Вялікае, усім добра знаемае дрэва, дарастаючае да 30 мэтраў вышыні і больш. Таўшчыня даходзіць часам да 5 мэтраў. Жыве ліпа вельмі доўга; спатыкаюцца экзэмпляры маючыя 1200 гадоў. -Кветкі ліпа мае дробныя, жаўтаватыя з моцным мядовым пахам. Высушаныя кветкі ліпы ёсьць добрым лякарствам на поты, проціў кашлю і катару, а ў народнай мэдыцыне стасуюцца таксама пры хваробах пузыра, нырак і пры нэрвовых атаках дзеля ўспакаеньня. Запатрабаваньне на кветкі ліпы вялікае.[*] Дрэва ліпы ўжываецца да вырабу лыжак, ночваў і г.д.; з яго робяцца таксама і скрынкі. Кара дае добрае лыка, якое ў нас ужываюць на хадакі, а ў Расеі нават ткуць з яго мяшкі на збожжа.

Ліпаў ёсьць некалькі адмен. Усе яны даюць найлепшы сьветлы мёд, які асягае высокую цану. Адна вялікая ліпа можа даць пажытак адной пчалінай сям'і. Нас найбольш цікавяць чатыры адмены ліпы, якія цьвятуць адна пасьля другой і, гадаваныя разам, могуць запэўніць нам пажытак на працяг цэлага месяца. Разгледзім іх па чарзе.

1. Ліпа вялікалістая. /Tilia Platyphyllos/ Лісьцё мае даволі вялікае, скосна-сэрцаватае, загострэнае і зубкаванае. Цьвяце ў канцы чэрвеня і ў ліпні. Гэтая ліпа расьце дзіка на Украіне і то паасобку. У нас гадуецца ў садох, парках ды аллеях. Зямлі вымагае хоць лёгкай, але ураджайнай. Размнажаецца з насеньня, якое прарастае вельмі ня хутка; нават стратыфікаванае частка прарастае толькі на другі год пасьля сяўбы. Можна размнажаць і адкладамі, гадуючы загадзя матачнае дрэва кустом.

2. Ліпа дробналістная. /Tilia parvifolia/ Лісьцё мае меньшае чым папярэдняя, падысподам сіня-зялёнае, цьмянае. Цьвяце на некалькі дзён пазьней чым ліпа вялікалістная. Ліпа дробналістная творыць лясы ў некатэрых мяйсцох Расеі, а ў нас ў Міншчыне.

3. Ліпа амэрыканская. /Tilia americana/ Называюць яе чорнай, бо мае галінкі пакрытыя вельмі цёмнай карой. Лісьцё мае найбольшае з усіх ліп, да 15 цм Цьвяце ўсьлед за папярэдняй. Размнажаецца ачкаваньнем на ліпе вялікалістнай, або дробналістнай.

4. Ліпа серабрыстая /Tilia argentea/. Лісьцё падысподам мае серабрыстае. Цьвяце ў канцы ліпня і ў жніўні, ўсьлед за амэрыканскай. Размнажаецца як папярэдняя.

/далей будзе./

---

[*] Сэкцыя Т-ва "Пчала" атрымала запатрабаваньне на 2500 кгр. цьвету ліпы.

# ЦІ АПЛАЧВАЕЦЦА ГАДАВАЦЬ ЛЕКАРСКА-ПРАМЫСЛОВЫЯ РАСЬЦІНЫ?

Яшчэ да сусьветнай вайны культура лекарска-прамысловых расьцін,была паплатная ,ды давала вялікія даходы ў параўнаньні да палявых культур і агародных расьцін. Але да сусьветнай вайны земляробская гаспадарка ня знала такога крызісу,як у сучасны мамэнт. Сусьветны крызіс так цяжка адбіўся на земляробскай гаспадарцы,што земляроб ня мае магчымасьці ўтрымаць сябе ды свой інвэнтар. Вось-жа сяньня перад земляробам,а галоўным чынам перад аграноміяй стаіць проблема найсьці такія спосабы гаспадараваньня,якія прынамся не давалі стратаў.

Да такіх спосабаў належыць інтэнсыфікаваць /палепшыць/ -дробныя галіны земляробскай гаспадаркі,як агародніцтва,пчалярства,птушніцтва,рыбалоўства,малачарства ды гадоўлю лекарскіх і прамысловых расьцін, -каторыя кожны гаспадар можа выкарыстаць у сваей гаспадарцы,як з стану дзікіх расьцін, што растуць у вялікай колькасьці па лясох,лугах,пасьбішчах і г.д.,так і гадоўлей на полі ці агародзе.

Што гэта галіна карысная можна ўбачыць па цыфрах,якія былі выпрабаваны на дасьледчых станцыях,як у краі,так і заграніцай.

Падаю цыфры лубенскай дасьледчай станцыі на Украіне,дзе параўноўваюцца розныя культуры збожжа ды асыпных расьцін з лекарска-прамысловымі расьцінам

| Назоў расьціны | Зужыта раб. сілы чалав-дзён | Зужыта раб. сілы коняў | Даход Брутто | Умоўны чысты даход ў гролах. |
|---|---|---|---|---|
| Пшаніца азімая..... | 38 | 29 | 83 | 48 |
| Сонешнік........... | 61 | 18 | 86 | 58 |
| Бульба............. | 86 | 22 | 274 | 182 |
| Цукровыя буракі.... | 123 | 50 | 160 | 92 |
| Пятрова мята....... | 160 | 20 | 240 | 190 |
| Шалвея............. | 204 | 20 | 360 | 305 |
| Руммянак........... | 424 | 12 | 480 | 435 |

Вось-жа параўноўваючы гэтыя цыфры -г.зн.найгалаўнейшых палявых культур, як пшаніцы - сонешніка - бульбы - цукровых буракоў з лекарска-прамысловымі, бачым,што ніводная з тых гаспадарскіх расьцін ня можа раўняцца з лекарскімі.

Калі-ж мы параўняем краёвыя дадзеныя з дасьледчай станцыі ў Кісельніцы і Эльжбеціне каля Ломжы Беластоцкага ваяводзтва -з камунікату № 12 за 1930 г. за месяц сакавік /дзе аўтар гэтых радкоў вёў аддзел лекарскіх расьцін/,дык гадоўля і аплатнасьць лекарскіх расьцін стане яшчэ больш відавочнай.

| Назоў расьцін | Дзён людской рабоч. сілы на 1гк. | Коняў на 1 гэкт. | Ураджай з 1 гект. у кілягр. | Цана 1 кг. сырца | Даход Брутто |
|---|---|---|---|---|---|
| 1.Пятрова мята........ Mentha piperita | 214 | 20 | 1600 | 3-4зл. | 4800 |
| 2.Комоса амэрыканская. Chenopodium ambrosioides | 215 | 18 | 2400 | 2 " | 4800 |
| 3.Майранак............ Origanum majorana | 150 | 18 | 1800 | 3-4 " | 5400 |
| 4.Палын............... Artemisia absynthium | 150 | 14 | 4000 | 50гр. | 2000 |
| 5.Агародная рута...... Ruta graveolens | 210 | 20 | 1400 | 2,50 | 3500 |
| 6.Кірдобэнэдыкт....... Cnicus benedictus | 210 | 18 | 4000 | 1 зл. | 4000 |
| 7.Шалвея.............. Salvia officinalis | 280 | 10 | 2900 | 1 " | 2900 |
| 8.Валерыян............ Valeriana officin. | 315 | 24 | 1600 | 3 зл. | 4800 |

Вось-жа вышэй прыведзеныя дадзеныя нагладна паказваюць,ці аплачваецца гадоўля лекарска-прамысловых расьцін. Кожны гаспадар,які хоча бліжэй пазнаёміцца з аплатнасьцю лекарска-прамысловых расьцін,знойдзе гэта ў Орыентацыйнай табліцы[1]таго-ж аўтара.

Усім гаспадаром,якія-б хацелі гадаваць лекарскія расьціны,рада такая: не гнацца за колькасьцю,але мець заўсёды добрай якасьці прадукт -толькі чысты і сьвежы знойдзе збыт і будзе аплатным. Гадаваць 1-2 расьціны,але дакладна ведаць,як і што каля іх трэба рабіць.

Калі ўмела гадаваць лекарскія расьціны,дык заўсёды будуць аплачываццца.

Інж.М.Гаўрыленка.

---

[1] Аблічэньне аўтара.Гл.Орыентацыйную Табліцу.

# З ЧУЖОГА ЖЫЦЦЯ.



У ліпні с.г.у Вэймары /Нямеччына/ адбыўся нац.-соцыялістычны зьезд нямецкіх аптэкараў, на якім паміж іншымі пытаньнямі гаварылася аб тым, што трэба зьвярнуць больш увагі на тыя скарбы, якія прырода дала ў лекарскіх зёлках. Ужо цяпер у Бадэне, ў Баварні, ў Саксоніі, а перадусім у Тырынгіі пачалі займацца гэтай справай, а ў Ліпску паўстала дасьледчая станцыя, якая павінна дасьледжываць памысныя варункі гадоўлі лекарскіх расьцін. У Ліпску працуе гэтак сама інстытут, каторы дасьледжывае, якія часткі паасобных расьцін зьяўляюцца найбольш карыснымі.

У Заходняй Прусіі зёлкам, якое з вельмі добрымі вынікамі зьбіраецца, а нават гадуецца ёсьць румянак; аўтар артыкулу, з якога бярэм гэтыя дадзеныя уважае, што гатунак прускага румянку ёсьць найлепшы, бо мае ў сабе аж 8% эфірнага алейку, у той час, як напр. румянак чэскі мае толькі 4%.

Вельмі распаўсюджаная ў Прусіі гадоўля пятровай мяты, дае надта добрыя вынікі; падобна адзін морг не дае 1200 марак даходу. Запатрэбаваньне аграмаднае: адна толькі фабрыка ў Ліпску перараблае у год больш 300 тысяч кілаграмаў сухога лісьця мяты.

Прыкладам выкарыстоуваньня няўжыткаў пад гадоўлю лекарскіх зёлак можа служыць факт, што адзін жыхар гэтай-жа Прусіі гадуе на тарфяным балоце з а г а р т у ш к у і атрымлівае вельмі дадатныя вынікі.

Аўтар артыкулу прабаваў гадаваць д з я в а н н у і ўважае, што гадоўля не вельмі паплатная. -З іншых расьцін аўтар радзіць гадаваць у вялікім ліку: італьянскі кроп, кмін і гародні мак, які апрача вельмі добрага алею, дае лекарскі сродак -опіум.

У гэтым-жа артыкуле пералічаюцца зёлкі, якія растуць у Прусіі дзіка, далей -вялікі лік такіх, якія з добрымі вынікамі могуць быць гадаванымі і канчаецца артыкул заклікам, каб кожны, хто можа стараўся прыняць удзел у гэтай акцыі, каб даць працу міліёнам рук, якія не патрабуюць і каб асталіся ў Нямеччыне тыя міліёны, марак, якія дагэтуль вывозіліся ў іншыя старонкі ў абмен за неабходныя лекарскія зёлкі.-

/Königsberger Allgemeine Zeitung/

## З НАШАГА ЖЫЦЬЦЯ.

### Нашае пчалярскае жыцьцё.
/Стаўпеччына/

Пчалярскае жыцьцё нашае ваколіцы можна разглядаць з 2-х бакоў: -добрага і благога. Добрага, бо пчалярства ў нас надта пашырана, шмат пчаляроў ўжо займаецца пчалярствам ня толькі дзеля прыемнасьці, але і дзеля тае паважнае карысьці, якую даець праца каля гэтае мілае галіны. -У ваколіцы ё ёсьць вальцы дзеля вырабу штучнае вузы, што надта спрыяець поступу ў пчалярстве. Шмат пчаляроў займаецца самадзельна сталяркаю, бляхаркаю і слесарствам дзеля вырабу патрэбных у пчалярстве прыладаў, як вульлёў, цэнтрафуг /пушніц/, кадоўбчыкаў, курылак і г.д.

Благім бокам нашага жыцьця і пчалярства зьяўляецца ў першую чаргу брак салідарнасьці паміж пчалярамі. Відаць гэта адразу напр. у збыце мёду, дзе дзеля гэтага паўстае напрыемная канкурэнцыя, цэны на мёд спадаюць і абніжаецца гэтым самым аўтарытэт самога пчалярства; выглядаець, што пчаляры з Божай ласкі ня ёсьць пчалярамі, а некімі фабрыкантамі танае кашы. Калі б у нашых пчаляроў было хоць крыху больш сьвядомасьці, дык гэтую ненармальнасьць лёгка былоб зьліквідаваць, хоць бы і праз тое, што можнаб было запісацца ў сябры Т-ва "Пчала" і цераз яго збываць свой мёд, а не таўчыся па рынку і даваць нажывацца розным перакупшчыкам. -Далей несалідарнасьць выяўляецца і ў тым, што шмат пчаляроў па старой традыцыі займаецца яшчэ і цяпер "чарадзействам", гэта знача накрапліваньнем вульлёў, каб лавіць раі, чым прыносіцца шмат шкоды суседзям, бо бунтуюцца пчолы якраз падчас багатага медазбору. -Блага стаіць справа ўсеяньня медадайных расьцін і саджэньня медадайных дрэў. Колькасьць пчаляроў і пчол павялічваецца, пажытак не павялічваецца і ў выніку слабы медазбор і аслабленьне пчол. Не малую шкоду прыносяць і навасьпечаныя пчаляры, закладаючы свае пчальнікі ў мясцох ужо занятых, пры самым баку старэйшых пчаляроў. Гэтае зьявішча стварае перагрузку пчол у дадзенай ваколіцы і адбіваецца непамысна на развіцьці пчалярства. -Гэтых балячак нашага пчалярства трэба пазбавіцца, а дзеля гэтага трэба фахова усьведамляцца і арганізавацца. Веда і лучнасьць сіла.

Пчаляр.

## ХРОНІКА.

У палове сьнежня Т-ва "Пчала" ладзіць у Вільні вечарыну дзеля прапаганды пчалярства і мёду. -Праграма наступная: 1. Гісторыя пчалярства /рэфэрат/; 2. Спажыўныя і лекарскія вартасьці мёду /рэфэрат/; 3. Літэратурны аддзел /пчала ў літэрат., казках і песьнях славянскіх народаў/; 4. Хор -песьні аб пчолах. -Буфэт -мёд і вырабы з яго.

## З ВЫДАВЕЦКАГА РУХУ.

Кожны каму ляжыць на сэрцы паляпшэньне сваей долі стараецца знайсьці тыя новыя дарогі, якія найхутчэй давядуць яго да мэты. Больш сьвядомы селянін, асабліва малазямельны, разумее, што пры сягоднешніх сьмешна нізкіх цэнах на выгадаваныя ім прадукты пражыць нельга і трэба старацца выкарыстаць сваю зямельку ў такі спосаб, каб яна дала янайбольш прыходу. Адным з тых спосабаў, якія радзяць практычныя людзі, ёсьць гадоўля лекарскіх і лекарска-прамысловых расьцін. -Не адзін можа ёсьць зацікаўлены, не адзін мае ахвоту выкарыстаць гэтую раду, але ня ведае, як да гэтага прыступіць, што гадаваць, што ён будзе з гэтага мець і г.д. -На ўсе гэтыя пытаньні і на шмат іншых вельмі выразна, сьціслa і зразумела адказвае спэцыяліст па гадоўлі лекарска-прамысловых расьцін інж.Міхал Гаврыленка, у апрацаванай ім "Арыентацыйнай табліцы". -Табліца гэтая мае IO наступных рубрык: I.Адлегласьць радкоў адзін ад аднаго; 2.Колькасьць насеўку патрэбная на I га.; 3.Якія часткі расьціны служаць да ўжытку; 4.Ураджай з I га.; 5. Сярэдняя цана за IOO кгр.сырога матэр.; 6. Скольki сухога тавару дае IOO кгр.сырой масы; 7. Тэмпэратура патрэбная дзеля сушкі; 8. Вага IOOO зярнят у грамах;9. Сярэдні лік людзкой і конскай сіл на I га.; IO. Колькасьць штучных гнаёў на I га. -Табліца бярэ пад увагу 44 расьціны, назовы якіх пададзены у мовах лацінскай, украінскай і польскай. -Апрача гэтага бачым IO пунктаў розных неабходных інфармацый, з якімі павінен пазнаёміцца кандыдат на плянтатара. -Агулам беручы "Арыентацыйная табліца" інж.М.Гаўрыленкі надзвычайна цэнная для кожнага, хто шукае новых дарог для сваей гаспадаркі. Каштуе танна, ўсяго I залатоўку. Выпісываць можна або праз рэдакцыю "Бел. Борці", або проста ад аўтара, Львоў, вул.Лычакоўская, 32-8.

## ПАШТОВАЯ СКРЫНКА.

гр. д-р.М.Голуб-Бучынскай. Гадавую падпіску /IO зл.-плата заграніцу/атрымалі; шчыра дзякуем. Т-ва "Пчала" дэклярацыю і ўсё іншае на днях абецае выслаць; прычыны спазьненьня ў лісьце.

гр.Я.Даніліку. №№ I і 2-3 "Бел.Борці" высланы. Грошы шліце на наш адрэ

гр.Я.Кузубу. Пробны № Вам высланы. Высылаем яшчэ адзін, а далейшыя атрымаеце пасьля ўрэгуляваньня падпіскі.

гр.гр.Я.Пятроўскаму, К.Чэрніку, Г.Грыневічу, Ф.Карасевічу, У.Калядзе, К.Барэйку, К.Палачаноўскаму і Я.Шулейку. "Бел.Борць" высылаем. Просім урэгуляваць падпіску.

гр.Андрэю Міхальчыку. Курсы па збору зёлак высланы. "Бел.Борць" высылаем. Просім па магчымасьці ўрэгуляваць рахунак, які выносіць 5 зл. Адрэс Ваш у рэд."Шлях Моладзі" перадалі. Адрэсы беляр.кніг. Вільня Астрабрамская № 2 -кніг.Ст.Станкевіча, Асрабрамская № I -Ул.Манкевіча і Завальная № I Кнігарня Пагоня. -Што тычыцца твору М.Мэтэрлінка "Жыцьцё пчол", то не мыляецеся, бо ў ён адзначаны нагародаю Нобля ў I9II г.

гр.П.Прадуху. Т-ва "Пчала валерыяну ад Вас атрымала; яшчэ не прадала, бо чакаюць магчымасьці прадаць яе выгадней. Каб людзі ня былі зьвязаны перасылкай зёлак рада адна, трэба арганізаваць на мясцох зборныя пункты, аб якіх гаварылася ў I-ай лекцыі. Радзім Вам заняцца гэтым. -Заранку тады выдавала Жаноцкае Т-ва імя "Цёткі", якое і атрымала ад Вас грошы. "Заранкі" вышла тады толькі два нумары. Цяпер выходзіць часопіс для дзяцей "Пралескі". Адрэс Ваш з просьбай высласць пробны № перадалі. "Бел.Борць" высылаем і згодна з перадавіцай гэтага нумару чакаем матэрыялаў.

гр.П.Гапанёнку. Насеньне яблыняў выслана; рахунак перашлем лістоўна. Жадаем пасьпеху. Аб збыт не непакойцеся, бо як нам абяцалі, будзеце мець аматара адразу на IOOOO дзічак. -Не разумеем аб якія хрызантэмы Вам ходзіц вазановыя ці грунтовыя. Калі аб грунтовыя, то цяпер ужо позна, а вясной дав даемся аб цэны; лепш купіць кусьцікі і адразу мець маточны матэрыял.

гр.інж.М.Гаўрыленку. Шчыра дзякуем за прысланы матэрыял. Зьмяшчаем. Просім і надалей не адмовіць нам свайго цэннага супрацоўніцтва. Пажадана мець матэрыялы ў пачатку кожнага месяца.

Усім не урэгуляваўшым падпіскі. Просім урэгуляваць падпіску, бо будзем змушаны інакш спыніць высылку часопісу.

---

Т-ва "Пчала" прапануе паважаным пчалярам наступныя медадайныя дрэўцы і кусты:

БЕЛАЯ АКАЦЫЯ -ад 50 да I40 цэнт.....................20 -50 гр.штука,
Аморфія -куст, цьвіце пасьля акацыі -60 цм.......... 50 гр. "
ІЗОП /крузьбень, красьвяк, красьвень/, кусцік, мядуе
ў працягу 2-3 месяц. -60 цм........ 50 гр. "
Софора японская, цьвіце у жніўні-верасьні -30 цм..... 50 гр. "
Бружмель руковы -цьвіце аднача́сна з бэзам - 40 цм... 50 гр. "
Дзед -добры медадай; расьціна 2-хгадовая, лёгка разсеецца 20 гр.флянс
Упакоўка і перасылка на кошт закашчыка.

---

Рэдактар-Выдавец Л. В о й ц і к а в а.